## АДЛЮСТРАВАННЕ

Глядзіш на гэтага хлопца з вёскі Церухі, радуешся. Разумны, добразычлівы, таленавіты хлапчына. І вось гэты, як пісалася пра яго ў “ЛіМе” “цнатлівы маладзён” быў адарваны ад роднай вёскі і кінуты ў вір горада. Выплыў. Агледзеўся навокал. І пачаў веславаць куды вочы глядзяць:

Радкі мае – агні начнога горада.
Нібы вясляр, вяслую я ў бяздонні…

У гэтым бяздонні неспазнанага ён спачатку губляецца. Але куды б ні занесла яго плынь, ён знаходзіць у сабе сілы не толькі захаваць сваю годнасць, але і дапамагчы тым, хто аказаўся з ім побач.

Алесь уражвае сваімі высновамі:

Збіўшы зямлю у грэчку,
Зведаўшшы сум і гам,
Стаўлю сцяжынцы свечку,
Што прывяла ў храм.

Другая кніга А. Бараноўскага амаль цалкам адрозніваецца ад першай, як па сваёй тэматыцы, так па змесце і форме. Першая частка кнігі – гэта паэзія роздуму. Відаць, лірычны герой яго вершаў пакутуе ад людской грубасці і бяздушнасці. Ён імкнецца да чысціні адносін, ён вяслуе напрасткі да неба, да сонца.

Нікому я неба сваё не аддам,
Дзе ў знак невядомы мне – зоры зліваюцца.
І хораша, што на імгненне збываецца
Той цуд, што адтуль накананы нам.

Яго не палохае незнаёмы свет, наадварот, навізна чаруе, прыцягвае.

І паўстае краіна прада мной
З нябыту:
Маіх надзей і спадзяванняў
Атлантыда.

Паэт надае свайму герою-весляру рысы мужнасці, адвагі, духоўнасці. Ён малюе свой свет, сваю Атлантыду, якая пачынаецца з родных яму мясцін, з дарагіх яму людзей, а яшчэ – з кахання. І хаця аўтар ведае, што гэты ягоны свет не вечны, выпеставаная ў марах Атлантыда можа знікнуць з яго арбіты, але ж працягвае яе будаваць, насяляць сваімі героямі, услаўляць, нарэшце. І веславаць у бездані Сусвету на лодцы, у якой знаходзімся ўсе мы і назва якой – планета Зямля. І адбівацца ў гэтым бязмонні неба:

Гляджу ў раку, дзе купаецца сіняе неба,
Нібы ў люстэрку, у небе жыццё адбіваецца.
І сонца, нібы жырандоля пад купалам вечнасці…
То хваля бяжыць, то чародкай аблокі,
мяняюцца…
Пакуль не спыняецца рэчка –
жыццё адлюстроўваецца..
А ў ім адлюструюся Я…

Шчаслівай зоркі табе, вяслар!

*Ніна ШКЛЯРАВА,*
*член Саюза пісьменнікаў*
*Беларусі*

# КАЙСТРА ПАДАРОЖНІКА

* * *

Спазнаць бы таямніцу неспазнанага,
Прайсціся б сцежкай, нібы промень лёгкі…
Сваёй душой юнацкай апантанаю,
Лаўлю сягоння свайго “заўтра” крокі.

Маўчу, пакуль маё маўчанне – золата,
Нясу святло праз лабірынт   сутоння.
Радкі мае – агні начнога горада…
Нібы вясляр, вяслую я ў бяздонні.

* * *

Як дзень святлею, ці як ноч цямнею.
Чарговы раз пытаюся, ну хто ты?!.
Дзялю сябе на два і разумею:
З'яўляюцца ў люстэрку две істоты.

Адной – гару, другою замярзаю.
З абліччам д'ябла, з крыламі анёла.
Стаю і паступова заўважаю:
Адна сумуе, а другой вясёла.

Засне адна – ёй мроіцца прадвесне.
Заб'е другая альбо дасць асечку,
Адна памрэ, другая ўваскрэсне
За першую ў царкве паставіць свечку…

* * *

Хтось скажа, што ў паэта цяжкі лёс,
Што вершы у пакутах нараджаюцца,
Цякуць радкі нявыплаканых слёз
І ў мёртвую ваду пераўтвараюцца.

І ў ручаі зліваюцца… І гаць,
Паэзіяй спрадвеку называецца,
Дык ці магчыма мёртвай называць,
Ваду, з якое Фенікс нараджаецца?

* * *

Бялеюць лілеі – аповесць
Пра лета на аркуш вады
Нябёсы паслалі як споведзь…
Прысядзь, палюбуйся і ты.

Гайдаюць іх цёплыя хвалі,
І лашчаць употай вятры,
А кветкі для іх захавалі
Пад хвалямі шлях да зары.

І мы ўсё сядзім і чакаем,
Каб рэчкі падслухаць сакрэт:
А што, калі за небакраем
Раптоўна канчаецца свет?..

Бялеюць лілеі, як словы
На аркушы сінім вады.
Выводзіць іх тут адмыслова
Нябесны прамень залаты.

* * *

Я ступіў за парог і, нібы выйшаў з комы,
І сустрэўся з горадам, што падстрыглі пад бокс.
Ён мігцеў ліхтарамі, нібы незнаёмы,
І парфуму глытаў ад чужых папярос.

Зноўку справіўшы баль на уласных памінках,
Свет канаў, закрываючы дзень на засоў.
Мой няспраўджаны рай вельмі крохкай ільдзінкай
Растае паступова у прыцемках сноў.

* * *

Хоць часам свет не мілы:
Карае ён і мілуе.
Настане дзень, і крылы
Распраўлю на ўсю сілу я.

І знішчу ў дзень адзіны
Як пух птушыны – дробязі.
Узмахам лебядзіным
Парву з бядою повязі.

* * *

І толькі сонца нагадвае,
Што цень жывы…
Ён частка мяне,
А я – неад’емная частка ценю.
Гадзіннікавай стрэлкай
Ён кружыцца вакол маёй арбіты,
Прыспешваючы час знікнення.
Я валодаю ценем, але я
Не здольны ім кіраваць
І толькі час,
штрых-коды
на ценях раставіўшы,
непазбежна
абвяшчае
сваё права
на ўласнасць.

* * *

Прывыклі ж усё аспрэчваць,
Не шкадуючы нерваў,
Бо спадзяёмся на вечнасць,
Пакуль хапае рэзерву.

Кіпім, нібы боршч дамашні,
Даказваем, парай зыходзім,
А потым дзень учарашні
Шукаем і не знаходзім.

* * *

Душа даўно не пакідала цела,
Хоць з гэтай клеткі вырвацца хацела.
Маёй душы чагосьці не ставала.
Ёй цэлага Сусвету было мала.

Душа да цела – цяжкая пакута –
Нібыта грэшнік, да зямлі прыкута.
З малітвай уздымаю ў неба вочы –
З душою раставаццая не хочу.

* * *

Верую, верую, верую –
Трызненне ці збавенне?
Душою ўшчэнт збалелаю,
Зняверанай да здранцвення.

Мяняю кашулю шэрую,
Пакуль выстачае сілы.
Ды безупынку верую:
Мне неба падорыць крылы.

Будзёны ўбор свой мераю,
Што лёс вышываў старанна.
І ўсё-такі свята верую,
Што свята душы настане.

* * *

Ноч набліжае вечнасць,
Цягне, як быццам багна.
Нектар недасягнутай слоты
Топіць да знемажэння.
Прашча?... А мо збавенне…
Не адчыніць вароты.
Крокі лаўлю я прагна…
Ці дапаможа стрэчны?..

* * *

Там, за падманам шкла,
За міражамі ночы
Воскам душа сцякла
І зазірнула ў вочы.

У калажы выяў,
Бы ў дыяфільме, зліты
Сотні людскіх праяў,
Стужкаю дзён спавітых.

Кожны прамень святла
Памяццю крываточыць.
Там, за падманам шкла
Нехта за намі сочыць.

* * *

І ўпадзе апошні ліст пад ногі,
І больш не будзе вецер завіхацца,
І каняю ў акно не будзе біцца
Святло сівое поўні адзінокай.
І, можа быць, аднойчы мне прысніцца,
Як я бязвольна гушкаю арэлі,
Па нечай волі стаўшы цёплым ветрам,
А раніцай знікаю туманамі.
Даруйце мне, мядзвяныя пакосы,
Бо не на вас я упаду расою.
І гіне ліст апошні пад абцасам,
Што ўчора гушкаў
Разам з ветрам неба.

* * *

Я сёння святкую свой дзень нараджэння
У зоне любові з мяжой адчуджэння.
Раскіданы зоры, як хлебныя крошкі,
І лашчыцца ноч, быццам чорная кошка.

Тут кожнаму промню, як Богу, удзячны,
Тут дзверы адкрыты, ды выйсця не бачна.
Тут моліцца нехта за грэшныя душы,
Хоць ціснe за горла бяссілле і душыць.

Свой дзень сустракаю прасветленым раннем
І зноўку чакаю, што свята настане.

* * *

Хмызнякі і дарогі
Знаёмы маім нагам.
Я спагадаю Богу,
Які спагадае нам.

Нечы пагляд нямілы,
Нечы прыветны кіў.
“Госпадзі, дай мне сілы”, -
Я часцяком прасіў.

Збіўшы зямлю у грэчку,
Зведаўшы сум і гам,
Стаўлю сцяжынцы свечку,
Што прывяла у храм.

* * *

Да шкла прытулюся гарачай шчакой,
Здаецца, што неба ў адказ дакранаецца.
Вядома ж, са мной забаўляецца, бавіцца,
Бо не дастаць мне да неба рукой.

Пакуль не згарэў, я кастрышчы палю,
Знішчаю палын, ды ён зноўку з’яўляецца.
Марознае шкло, можа, Бог памыляецца,
Бо чэрвень учора прыйшоў на зямлю.

Нікому я неба сваё не аддам,
Дзе ў знак невядомы мне – зоры зліваюцца.
І хораша, што на імгненне збываецца
Той цуд, што адтуль накановааны нам.

* * *

Гляджу ў раку, дзе купаецца сіняе неба,
Нібы ў люстэрку, у небе жыццё адбіваецца.
І сонца, нібы жырандоля пад купалам вечнасці…
То хваля бяжыць, то чародкай аблокі,
Мяняюцца…
Пакуль не спыняецца рэчка –
жыццё адлюстроўваецца..
А ў ім адлюструюся Я…

**Сказ**

Ці чулі сказ аб падарожніку?
Па свеце ён хадзіў, дзівіўся,
Як людзі тут жывуць здаўна.
Там, дзе вяселле – завітае,
Абраным шчасця пажадае.
Так і блукаў па вёсках ён…
Яго й на хрэсьбінах убачаць,
Прыкмецяць нават на памінках –
Усюды ён жаданы госць…
Так доўга йшоў той падарожны,
Мінаў і горы, і даліны,
І торбу за плячыма нёс.
Шмат бачыў, ведаў, прыбярог
І для  сябе, і для нашчадкаў,
Для тых, хто ўслед за ім ішоў…
Ад той пары гады мінулі,
Яго не бачыў больш ніхто…
Ды кажуць – кайстру адшукалі
І там убачылі аднойчы
Жывое сэрца, яно біцца
ні на хвіліну не сціхала
За веру, што яго натхняла,
І за каханне, што ўздымала,
І надавала яму крылы,
І за надзею, што паіла,
Як ручаіны карані,
І рэшту друзу – камяні…

* * *

Пачатак пачынаецца з канца,
І лепшае няма на свеце меры:
Рубіць з пляча – не шкадаваць сякеры
І верыць у надзейнага ганца.

Без страху жыць і не чакаць вянца.
Няхай пра гэта думаюць Хімеры.
А я, чамусьці, непахісна веру:
Пачатак пачынаецца з канца.

* * *

Пыталіся ў мяне, а я маўчаў,
Было балюча, нават не крычаў
І толькі, калі раптам іх страчаў,
Яны, чамусь, убок хавалі вочы.

Што з вамі адбываецца, сябры?
Калісь гулялі разам на двары,
Што маю я і ты заўжды бяры…
Такія вось шляхі лёс напрарочыў…

Не доўгім на зямлі наш будзе век,
Пячатку час сарве сваю з павек,
Ды толькі б не забыць, што чалавек
Пражыць той самы век павінен годна…

Хоць кожны ў сваім выбары свабодны.

* * *

Камень – да каменя,
Попел – да коміна…
Жыць замінае
Крыўды аскоміна.

Свет – праз расколіну,
Сведкі… Ім – дулі, ну
НЕ ДАЗВАЛЯЮ
Глядзець праз адтуліну.

Ціха падрыгвае
Шыбка аконная.
Клетка раскрытая –
Сэрцайка – вольнае.

* * *

Ведаць, вагацца, вандраваць вакол вогнішча,
Выпільноўваць волю, ветрам выпеставаную.
Воўкам вырвацца, выпаўзці, выскачыць.
Воля выратуе, выведзе –
Верыцца…

**Зігзагі**

Што не адолеў – праміне,
У попел знішчыць успаміны…
Хтось робіць човен з дамавіны,
Хай праплыве не паўз мяне.

***

Ад часоў незапомных да Скіфаў
І ад Скіфаў да нашых часоў –
Хто зрабіўся стваральнікам міфаў,
Той і верыць у міфы гатоў.

***

Будую прыступкі ў пошуках рая,
І кожную з іх пад сабой спапяляю,
Ды, апынуўшыся ў прорвы на днішчы,
Ствараю новыя на папялішчы.

* * *

Гадкі мае - памочнікі, гадкі мае – пакутнікі…
Знікаюць дзесь гаротнікі ў бермудскія трохкутнікі.

***

Рыскамі на далоні наканаваны лёс,
Мазалі на далонях сцёртых дадаюць у гэты план карэктывы…
Хтось шукае пярчынку ў супе, я ж напіўся ўжо горкіх слёз
І з надзеяй гляджу праз фіранку на касога дажджу пералівы.

***

Лабірынт нематы –
Пракавечная лесвіца,
Дзе самотнай мяцеліцы,
Не астылі сляды…

* * *

Рыпіць расколінай кармá…
Няўжо мая такая кáрма?
Бо ты сказала ў вочы прама:

“Не трэба, любы, я – сама…”.
Сама… Сама…
А я ж – той самы.

* * *

Змена поглядаў чаргуе змену,
пашыраючы фокус з’яў,
да размытых граняў жыцця,
да замены амбіцый капрызам.

***

Шаргаціць пад нагамі лістота
І знікае да новай вясны.
Асыпаецца пазалота,
І зямныя канчаюцца сны.

***

Сцяжына далёкая -
Канца не відно.
Калі стамлюся я –
Прылягу на краёчак.

* * *

Надзея растае, як эскімо,
Што з палачкі сцякае шакаладам.
У кадрах чорна-белага кіно
Не разглядзець, што там, за далягладам.

***

Я рамантык у век наш бязбожны.
Можа, я нарадзіўся не ў час?..
Дзякуй Богу, што ёсць спадарожны,
Ён на правым плячы у нас.

Павіснуўшы зноў над безданню,
Чапляючыся за край...
Паміж адчуваннем і веданнем
Гадаю, які ён – рай?

***

Калі адказваюць вусны,
Ад шчасця крычу бязгучна.
Ты мяне чуеш?..

**Хоку**

Неба ці глеба?
А вось воку – аблокі,
Душы ляцяць.

***

Пуста сталася,
Нават рэха заснула…
На гадзінніку – вечнасць…

***

У адказ - гудкі:
Абанент недасягальны…
Ды не для смерці.

***

Вароты ў бездань –
У пекла гэта ці ў рай?
Твой пацалунак…

**БРАХІКАЛОН**

Цвік…
Лік.
Стогн –
Ціш,
Ноч –
Дзень.
Ты
Спіш
І сніш
Як быль
Дзень,
Ноч,
Цень…
Цвіль.

**РАНСА́РАВА СТРАФА́**

Ой, чаромха пад вакном
Ясным днём,
Бы на выданні нявеста маладая.
Будзе забаўка для пчол,
а наўкол
Песню вецер ёй вясельную спявае.

**Думкі**

Яны зямныя і касмічныя,
Слівова-яблычна-сунічныя.
Думкі ўласныя і народныя,
Паднявольныя і свабодныя.

Патаемныя думкі, яўныя,
Каласістыя, разнатраўныя.
І душэўныя, і сардэчныя,
Думкі новыя і скамечаныя…

Каляровыя – чорна-белыя,
Пераблытаныя, зразумелыя.
Аднадзёнкі ёсць недарэчныя…
Але ўсе яны – чалавечыя.

* * *

Акалічнасць акрэсліла крэсы…
Паміж крыўдай і вечнай радасцю –
Калаўрот. І гуляе з памяццю
Мой ахоўнік –Анёл-гарэза…

Па крыві, па зарубках вечнасці
Адлюструюся ў вашай памяці
І пакрочу за кволым агеньчыкам,
У якім вы мяне спазнаеце.

* * *

Малюю дыханне я холадам
Сняжынак на цёплым акне.
А ноч адурманіла соладам,
Ды толькі не соладка мне.

Паснулі ваколіцы стомлена,
Прыснілі антонаўкі май.
І поўня – як масла растоплена,
На зорках настоены чай.

* * *

Надта не азірацца,
Жыць і здзіўляцца  варта,
Падаць і падымацца,
Сум падуладны жарту.

Верыць і не здавацца
І не чакаць расплаты.
Новаму дню ўсміхацца,
Хоць ён нясе і страты.

* * *

Грукоча гром – іржавы тарантас,
У новых песнях бумеры апеты.
Не спяць Анёлы, што абудзяць нас,
Пад фейерверк абрынутай каметы.

Прымае сонца свет як маярат,
Бездапаможны свет – дзіцёнак кволы.
Нязменна толькі музыка цыкад
Ды плач над лёсам грэшніка – Анёла.

* * *

Па снезе чырвоным ціхай хадою павольнаю
Шляхі вымяраю ад поўначы і да бясконцасці.
Лунаць бы мне птушкай у небе крылатаю, вольнаю,
Пазбавіцца б тых кайданоў, што дыктуюць умоўнасці.

Не варта разменнай манеты жыццё у бяссэнснасці,
На колькі б душа ні была тут павернута градусаў.
Растане надзея, бы помнік пустой аднамернасці,
Ты маеш надзею – ты вельмі багаты, то ж радуйся.

А колькі дарог туманамі і ветрам азмрочана,
І вера амаль што ліпіць, і хоць тлее, ды цепліцца.
Нібы варажбіткай на картах старых напрарочана:
Дабро пераможа, ды толькі мне з цяжкасцю верыцца.

Маўчыць цішыня: яна сёння чамусьці не ў голасе,
І месяц без сораму пільна ў акно ўглядаецца.
А што, калі б я цікаваў бы за ім, там у космасе?
Наўрад ці мая прапанова яму спадабаецца.

* * *

Шлях на плыні страчаных сэнсаў,
Часам размыты і зрокам нябачны.
Сярод дабрадзецеляў і павесаў
Прорвай глыбокаю – неабсяжнасць.

Знакі градыруюць тонка і ў сэрца.
Спазнанне ісціны вечнай ці догмы?
Апошні раз, калі звон адзавецца,
Заплачуць у прыцемках сумныя бомы.

Тунэлі, агорнутыя халадэчай,
Ізноў узгадаюць малітвы закутых.
“Спыні, калі ласка, Харон, – я не вечны,
Ды памяці ніткі ўпіліся, як путы.

Ілжывы хаос... Не адчуць разумення...
Рука пераксціцца ў трохперсці адвечным...
Нябесны Ўладар, ты пашлі нам збавенне,
Не дай пад нагамі травою палегчы.

* * *

Гнутыя цені на пераломе сцен –
Ржавыя спіцы на калясе Фартуны,
Код блаславення ў хітрым спляценні вен.
Шчырае неба ў колер марской лагуны.

Хто прайграе, не атрымае куш –
Жорсткі закон у несправядлівым свеце.
Гнутыя цені – рваныя струны душ…
Мары – на вецер і намаганні –
У смецце.

* * *

Упасці б у нечуваную прастору
І сэрцам адчуць, што яе замала.
Ды толькі не вырву і не агораю,
Таго, што з душою жыццё з’яднала.

Чый пэндзаль малюе паміж высноў,
Выратоўваючы ад напасці?
Калі ў мяне не хапае слоў,
У муках згадваецца распяцце…

* * *

Я сыду, нікуды не падзецца…
Надакучыць некалі жыццё.
Апаўночы раптам разнясецца
Спрэс неўтаймаванае выццё.

Хто дзяліў ад нараджэння маскі?
Служкі - служкам, каралю-кароль.
Хтось назваў мой лёс няйначай казкай…
Толькі казка гэта цераз боль.

Пасля акту драматычнай ночы
Па традыцыі заўжды пралог.
Калі выць па-воўчы ты ахвочы,
Значыць у нас будзе дыялог.

* * *

Крышыцца і камень, і пергаменты,
Выклік даў я – кінута пальчатка,
А на сэрцы – шнары, як арнаменты –
Непрыступнай вечнасці пячатка.

Мой шкілет – страшэннае відовішча,
Хоць у нас да скону свая веха,
Ды, калі ў нябыт сыходзяць прозвішчы,
Успамінаў не змаўкае рэха.

* * *

Не вымярай сяброўства скарбам,
Цані за кожны дзень жыццё.
Брыдзеш ты полем сам ці з сябрам,
Не азірайся на асцё.

Каб стужкай вернасці спавіты,
Ты сябра кожны дзень бярог,
Ці - то галодны, ці - то сыты
Не шкадаваў, што дапамог.

* * *

Халоднай цішай вечар наплывае,
Дрыжачым бляскам вогненных камет.
Павольна ў бездані нябёс шукаю,
Я зорку тую, дзе пакінуў след.

І прагну кожны раз зімою лета,
Там, дзе няма мяне, хачу пажыць…
Нібы ў Сусвеце новаю планетай,
Мне на ілбе напісана, кружыць.

* * *

Асенні туман абдымае за плечы,
І вецер ад суму між дрэвамі енчыць.
Лісток затрымціць і на дол ападае....
Туман растае і павольна знікае.

Панурая млявасць да пят працінае
І холадам колецца, бы драцяная.
І час маю памяць, як моль плацяная,
З’ядае і з ветрам знікае за гаем.

Я – восень, напэўна, ды вось незадача,
Што наканавана мне, не перайначу:
Памерці з лістом і з лістом нарадзіцца,
Кагосьці прысніць і камусьці прысніцца.

* * *

Брукаванкаю крочу па следу бясконцасці,
Нібы босы па вогнішчы, зорны шлях вымяраю.
І пакуль у прытомнасці, шукаю сэнс
незваротнасці.
Ды, каб вярнуцца назад, я сам сляды пакідаю.

Дахі сонцам асвечаны, як успамін
непазбежнаму…
Як перад спёкай туман, мой свет далёкі знікае.
Плыву ў невясомасці, імгненне гасне ў вечнасці.
Як самалёт, сваю хуткасць і вышыню набіраю.

* * *

Кладу мазкі на палатно я
Роўна,
І белы свет мой фарбаю –
Бавоўны.
Вывожу лёгкаю рукою
Рэчку,
А па-за рэчкаю красуе
Грэчка.
І ходзіць пэндзаль па карціне
Гладка,
Малюе ён ды па-над рэчкай
Кладку,
Куды нясмела босы я
Ступаю,
І не відно вадзе той ні канца
Ні краю.
І паўстае краіна прада мной
З нябыту:
Маіх надзей і спадзяванняў
Атлантыда.

# МАЯ АТЛАНТЫДА

* * *

*Рем мроі вакол,*
*Ці то пыл каля ног?*
*Ніна Шклярава*

Рояцца мроі, мрояцца,
Быццам іх бачыць кожны:
Родныя сэрцу ваколіцы,
Сады, агароды, пожні.

І прыцемкі вечаровыя,
Пробліскі першых зорак,
Дахі старыя і новыя,
Ледзьве прыкметны золак.

Водбліскам непрыручаным,
Толькі зары вядомым,
Вясёлы паэт і засмучаны –
У мроях заўсёды – дома.

**Маці**

З прыветным паглядам сустрэне цябе на
парозе:
- Прыехаў дадому, ты шчасце прынёс нам,
сынок!
Як справы твае, прытаміўся, напэўна, у дарозе,
Чакала цябе, ты да нас ўсяго на дзянёк.
Прыбрана ў пакоях, пастаўлены раніцай кветкі
–
Руплівыя рукі не ведаюць стомы штодня.
Шчаслівая маці, калі  шчаслівыя дзеткі,
Яны яе сонца, прамень сярод хмурнага дня.
Блакітныя вочы – люстэрка бяздоннага неба,
У бездані гэтай агеньчык любові гарыць.
І дзе б  не вышуквалі дзеці надзённага хлеба,
Заўсёды ім ёсць дзе свой шлях ля цяпла
прыпыніць.

* * *

Ну і нашто аб тым гадаць,
Што нам не дадзена прадбачыць?
Пакуль свой лёс не перайначыць,
Мы будзем жыць і паміраць.

І караблі свае у гаць
Прыводзіць пад вітанне ліры,
Ды з безагляднасцю у вырай,
Як птушкі, будзем адлятаць.

Забеліць іней галаву,
І сцежка дабяжыць да краю,
І, можа, я тады згадаю
Ля ганка мяккую на траву.

## Радзіма

Блакітная, жытнёвая,
Як сон-трава вясновая.
Ласкавая,сардэчная,
Імгненная і вечная.
Матуляй песня спетая,
Цяплом надзей сагрэтая,
Бы сонейка, лагодная,
Адзіная і родная.

## Успамін пра вайну

Абтрушу валасы ад пялёсткаў вішнёвае квецені,
Разбярэджу ўспаміны, што мне нагадалі яны…
Праляцелі гады, праляцелі, а мы не прыкмецілі,
Быццам сам я учора вярнуўся з крывавай
вайны.

Год за годам сваю вышыванку стварае
сумёціца:
Нараджэнне пазначыла крыжыкам, нулікам –
смерць,
Перамога у сны партызанскаю песняю
просіцца,
Хоць і нулікаў болей у войнаў, ды каб ім
згарэць.

Ахінае пяшчотаю май, дзень дарэшты замаены,
І нікуды не дзецца ад гэтай салодкай маны.
Хмельным водарам траў, як ніколі, чамусь,
адурманены,
Быццам сам я учора вярнуўся з крывавай
вайны.

Даглядай абеліск, пакланіся святыні з павіннай,
Хай засвеціцца неба ад соцен царкоўных
свячэй.
Хай гучыць, як набат, сумны клёкат у небе
буслінаў.
Каб, сустрэўшы салдата, сваіх не хаваў ты
вачэй.

* * *

І шчасце, і доля гаротная –
Часова усё на зямлі.
Адна толькі смерць бессмяротная –
Напомніў снарад у раллі.

Ды думкай сваёй заварожаны,
Стаю я ў пачатку дарог,
А нехта, дарэшты спустошаны,
Збівае нагою быльнёг.

* * *

Пахне прэлым лісцем ды іглiцай,
Вечар затухае сінявой.
Пакрысе на вуліцы імглiцца
Ночы цёплай восеньскі сувой.

А на золку ды ў акно бязмежжам
Патыхнула ад пажатых ніў.
Ветрыкам, нябачным воку, свежым
Ранак дрэвы ў садзе агалiў.

Не прачнуцца да вясны рабаткі,
Вунь у парку – голыя камлі –
Гэта восень сумныя нататкі
Піша промнем сонца па зямлі.

* * *

Хмаркі набраклае вымя,
Поплаў у барве зары.
Сонца у ранішнім дыме
Ловіць прамень на двары.

Выгнула неба аглоблі –
Жнівеньскі нацюрморт.
Просіць жаданай кроплі
Нівы засмяглы рот.

Гром паміж хмараў блудзіць,
Нібы шаман, і ўсё ж –
Моляцца Богу людзі,
Просяць паслаць ім дождж.

* * *

Першыя кроплі нясмелыя
З неба сарваліся, падаюць.
Быццам намацваюць пальцамі
Глебу духмяную, пульхную.
Не каскадзёры – смяротнікі…
Падаюць і разбіваюцца,
За парасон не чапляюцца.
Шкода іх стала… Гаротнікі.

* * *

На парапеце, на парапеце,
Бы на паперці,
Просіцца ў хату, просіцца вецер
Снежнаю замеццю.

Моліць-нядоліць, б’ецца ў дзверы,
Прагне гутаркі.
Не адчыню, бо няма даверу
Вецер лютаўскі!

Па маставой, па маставой
Снег раскідае…
І прымасціцца пад дах на пастой –
Справа няхітрая!

* * *

Справа даўняя, сцежка доўгая,
Падпалілі ноч зоркі ясныя,
А пад імі – цень ды са стогнамі,
Здань журботная, здань заўчасная.

Хоць жадаў рубель, шанаваў і грош,
І цыганка-ноч пышнагрудая
Назбірала зор у Мядвежы коўш,
Што ляглі ля ног срэбнай грудаю.

Сівізна на скронь пасмай, вунь, густой,
Няўжо спетая мая песенька?..
Сівізна на скронь... Не спяшай, пастой,
Праз адну няма ў бубцы зернетка.

* * *

Слуп да слупа. У цішы
Лямку нясуць адвечную…
Выехаць на сустэчную
Па ледзяной шашы!

Сціснуць бяззубы боль,
Часам, бы моллю з’едзены,
І у “нішто” нізведзены…
Толькі на спіне соль.

Крык у нямой глушы
Перад бядою з’едлівай.
Людзі прыціхлі, ветліва
Знялі капелюшы.

## Адзінота

Не хандра, што ломіць косці, не лянота,
Не каханне, што вясной хвалюе кроў,
Сарамлівая ты цнота, адзінота,
Паратунак ад назойлівых сяброў.

То – з усмешкай пазіраеш, то маркотна,
Непрыступнаю здаешся мне скалой.
Мне з табою і шчаслівa, і гаротна,
Я з табою быць магу самім сабой.

Ды, калі палынь-травою каля плота
Парасце мая сцяжынка на вятрах,
Я кляну цябе, о, цнота-адзінота…
Ты – чужая мне і родная сястра.

* * *

Пунсовыя кроплі на белым абрусе –
Колкія ружы, што ўмерзліся ў снег.
Голас пакліча, і я адгугнуся,
Познія ружы ці восені здзек?

Ліўнем размые пяшчаныя замкі,
Крок асцярожны сыдзе на бег.
Кроплі пунсовыя птушкі заранкі…
Птушку забілі і кінулі ў снег.

* * *

Куляецца поўня у лужыне,
Зямля ледзь не ўсыпана золатам.
Не я для цябе буду суджаным,
Ты сёння павенчана з холадам.

Альтанка ўспамінамі цешыцца
Пад лівень асенняе музыкі.
Што мы не ўдваіх – не верыцца,
А ноч расшпіліла гузікі…

* * *

Нібыта прывід, я без цябе туляюся.
Блукаю па пакоях нашай памяці,
Здыму абутак, як п'яны, хістаюся
І ва ўспамінах стыну, як у замеці.

Мінулае гукае недарэчнае…
Не разам мы ужо, дарогі розныя.
Хоць шчасце для усіх адно, спрадвечнае,
Ды мы не дараслі да шчасця розумам.

То не ад Сіняй птушкі пер'е знішчана,
Не на Купалле адшукана папараць.
З табою мы дайшлі да кропкі фінішнай,
Што са шчакі маёй слязою капае.

* * *

Сцерся, як быццам бы я – абразі́ў,
Быццам па спіне прайшоў маёй молат.
Не абра́зіў я, ды ўсё ж нарадзіў
Самазнішчальны ў душы сваёй холад

Дух саграваe старэнькі матыў,
Сэрца шукае сэрца
Навобмацак.

* * *

Ты мяне турбуеш, як тады,
Месяца акраец малады!
Можа, сам я не заўважыў, мо няўзнак:
Я не проста чалавек, а ваўкалак?..

Можа, звілістай, сцяжынкай той
Я шукаў ля поўні вадапой?
Зведаў жар зялёнай крапівы,
Прачынаўся ў ложку ледзь жывы.

Звонку поўсцю абрасту й знутры:
Мне цяпер не страшныя вятры.
Ты мяне, акраец, не турбуй,
Да Малой Мядзведзіцы шыбуй!

* * *

Човен нашай надзеі на хвалях гайдала,
Калыхала пад сонцам, шпурляла у быт
За паўмілю да шчасця, за крок да прычала
Наша лодка сканала ў Бярмудскі нябыт.

Толькі гладзь акіяна па памяці шастае,
Ды патрэскаўся човен, бы гліняны – жах!
І засталася сэрца нязведаным пластам,
Пацярпела каханне ўтрапёнае крах.

...Калені парэзаў, як рэпку,
У кроў пасціраў кулакі...
На беразе толькі аскепкі
Знаходзяць парой хлапчукі.

* * *

Маіх надзей няскошанае поле
Гусцее, нібы ўлетку збажына.
Я зерне, нібы птушанят на волю,
Лунаць пушчу пад небам да відна.

Маёй пяшчоты малады алешнік,
Маёй любові перысты мурог,
І лёс, што быццам непрытомны грэшнік,
На грудзі кацянём мае прылёг.

Маіх жаданняў поле яркіх макаў
За непрагляднай коўдраю імжы
І за растаннем… Дождж чакаў і плакаў
На незваротным болей рубяжы.

* * *

У адказ мне – маўчанне. За маўчаннем – гудкі,
Бы сігнал цягніка, што не стаў на прыпынку.
Захацела асобную выбраць сцяжынку,
Я цябе адпускаю, ідзі напрасткі.

За вагонам – вагоны, чамусьці парожнія.
Адзінотай мігціць нежывы семафор.
Дзве паловы, а можа, мы проста прахожыя?..
Лета… Восень… Зіма – зноў пусты трыкалор.

Без адказу пытанне, хоць пытальнік
пастаўлены…
Стала глупствам адзінства і думак, і мар.
Напалову з табой мы віны не пазбаўлены.
Напалову затух спапяляльны пажар.

І няхай гэты дзень чорнай фарбай адзначаны,
Ружы вянуць заўчасна, пялёсткі ляцяць…
І хоць, як валасы, думкі ўсе раскудлачаны,
Але ж сэрца сваё навучу я лятаць.

* * *

А нешта было ў гэтым восеньскім ранні,
Калі дагаралі без дыму рабіны.
Калі да цябе я ішоў на спатканне,
Адна ты ў мяне, для цябе я адзіны.

І неба як неба, хоць звешана нізка,
Няўзнак  дакранаўся рукой далягляда.
Пад хмарай стаяў, што нібыта калыска,
Як калісь малы  і чакаў зоркападу.

А нешта гукала і вабіла сэрца,
Бы тыя вяргіні, што стылі ля плота.
Гарацьарабіны, ды ўсё ж не сагрэцца,
Калі запануе ў душы адзінота.

* * *

Адышло… Адцвіло…. Адгарэла…
Больш ні святаў з табою, ні будняў
Аніколі не будзе… Смела?..
Засыпаюць сняжынкі студню.

Разгадаць, развязаць, калі трэба.
Прапусціць цераз сэрца – сцерпіць.
І вісець між зямлёю і небам,
Як ліхтар скалыхнуўшы цемрадзь.

**Развітанне**

Размерана, размеркавана…
Рызыка руйнуе раўнавагу…
Разлічыліся россыпам рогату,
Раздражняючым рэхам – радыё.
І не радуе раніца росная,
Развярэджаны розум, разгублены,
Рай распушчаны, рай раскрадзены,
Раз’яднаныя рукі розніцай.
Развіталіся, разляцеліся
Раніцою ружова-роспачнай.
Раз – разведзены, раз – разлучаны –
Раўналеглыя робяць радыус…

**Каханне**

Спакуслівы мёд за атруту гарчэйшы бывае.
То цёмным, то светлым малюе і так да
бясконцасці.
Ахвяра жывая і покуль не трацiць прытомнасці,
Кахянне нявечыць і б’е, але не забівае.

Спакуслівы яд, што на дне, быццам твань,
асядае,
Праз жылы патрапіць у сэрца, ці з радасцю
выпіты.
І толькі, калі з каляіны, нарэшце, ты выбіты,
То новае нешта каханне ў табе адкрывае.

## ТРЫЯЛЕТ

Раскінь Таро і прадкажы мяне,
Распні адчай у пацалунку вуснамі.
Знаёмымі такімі і спакуснымі…
Раскінь Таро і прадкажы мяне.
Ты не скарайся звадкам і мане,
Хай не здадуцца дні са мной прымуснымі.
Распні адчай у пацалунку вуснамі,
Раскінь Таро і прадкажы мяне.

* * *

Не бывае аднаго спаткання:
Трэба многа солі паспытаць,
Каб адчуць сапраўдны смак кахання,
Шчырасць думак і пачуццяў жарсць.

Не бывае аднаго растання:
Сілу пачуцця гартуе час.
Каб ад цёмнай ночы да світання
Еднасць думак ахінала нас.

Не бывае вечнасці без веры,
Пачуцця адказнасці без страт.
Не бывае шчасця без даверу,
І падману веры без расплат.

Будуць прагнуць бітвы нашы сэрцы,
Патухаць і нараджацца дні.
У жывой душы маёй – цяпельца,
Ты яго ад ветру барані.

* * *

Запытай – адкажу,
Ты маўчыш – я маўчу,
Я  гляджу – ты глядзіш,
Я прысню – ты прысніш.
Я далонь – ты далонь,
Паміж намі агонь,
Мы з табою адно,
Быццам куфель з віном.

* * *

Ахіне пяшчотай вечар, замілуе.
Думка сэрца саграваe, што люблю я.
Ты не думай пра растанне – недарэчна.
Вочы – ў вочы, і ў вачах нібыта вечнасць.

Я ў тваім магнітным полі – у каханні.
З гэтай думкай сустракаю сваё ранне.
Не спыніцца і нікуды ўжо не збочыць,
Зоркапад нам нешта добрае прарочыць.

Ахінуцца б цеплынёй начной, як пледам.
Каб кахаць цябе, не трэба быць паэтам.
Ты не думай пра растанне – недарэчна.
Вочы – ў вочы, і здаецца мігам вечнасць.

* * *

Спляці мне сон з быльнёгу,
І кінь яго у гай.
Над стужкаю дарогі
Калыску загайдай.

І змый вадой бягучай
З далоні ліпкай соль,
На поплаве за кручай,
Душу маю спатоль.

Прываражы туманам,
Пазбаў мяне турбот,
І ліпеньскім падманам
Замры каля варот.

І поўню, не капейку
Змагу я падарыць.
Не трэба толькі, дзеўка,
Мне галаву дурыць!

* * *

Хмары скамячылі неба прасцінку,
І на варотах – крышталем ільдзінкі.
А на асфальце, відно – выпадкова
Конь мне пакінуў пячатку-падкову.

Снежань прыйшоў, гэта снежаньскі выбрык,
Бо не ратуе ні футра, ні імбрык.
Сцюжа паставіла ў вокны заплатку.
Сонца патрапіла хмарам у пастку.

Ліст адзінокі сарвецца і згіне,
Снежным завеям адаўшы даніну.
Ды замігціць, нібы сонца ў акенцы,
Любай усмешка, сагрэе мне сэрца.

* * *

А я ў туман, зноў у туман
Кульнуся з галавой.
Няўжо дурман, няўжо падман
Усе, хто быў са мной?
Ці выпадкова, ці знарок
Я не збярог, што мог.
Каб здзейсніць вырашальны крок
Цераз нямы парог.
Бягуць гады, сплятуць узор
З бялюткіх нітак зім.
А я гадам наперакор
Не падуладны ім.
Не будзе слёз, хоць цяжкі лёс:
Дапамажы мне Бог!
Каб свет нябёс я ў сэрцы нёс
І да канца збярог.

* * *

Накіне ноч празрыстае манто,
І месяц жартаўліва здыме кепку.
Пра гэта знаць не будзе аніхто
І нават бусел – гэты вечны скептык.

Маністамі дрыжэлі зоркі ў рад,
Азвалася  гітара пераборам,
Вясёла гаманілі ля прысад
Рамонкі, што забыў сарваць учора.

* * *

Пачуццяў вадзіца студзёна,
Як солад даспелы п’янка,
Ды толькі бяда: маладзёну
Не сплесці з пачуццяў вянка.

А ружы завуць: “Азірніся!”.
І спакушаюць: “Лаві!”.
Мне б сэрцам – у ясныя высі,
Ды пальцы ад руж у крыві.

Ідзе ў натоўпе юначым
Стары, замаруджвае крок.
Ён ведае праўду, няйначай:
Каханне – цярновы вянок.

**ЗМЕСТ**



**КАЙСТРА ПАДАРОЖНІКА *(Раздзел І)***

Калі адказваюць вусны
<u>Хоку:</u>
Неба ці глеба?
Пуста сталася
У адказ -  гудкі
Вароты ў бездань
Брахікалон
Рансарава страфа
Думкі
Акалічнасць акрэсліла крэсы
Малюю дыханне
Надта не азірацца
Грукоча гром – іржавы тарантас
Па снезе чырвоным
Шлях на плыні страчаных сэнсаў
Гнутыя цені на пераломе сцен
Упасці б у нечуваную прастору
Я сыду, нікуды не падзецца
Крышыцца і камень, і пергаменты
Не вымярай сяброўства скарбам
Халоднай цішай вечар наплывае
Асенні туман кладзецца на плечы
Брукаванкаю крочу па следу бясконцасці
Кладу мазкі на палатно

**МАЯ АТЛАНТЫДА *(Раздзел II)***

Рояцца мроі, мрояцца
Маці
Ну і нашто аб тым гадаць
Радзіма
Успамін пра вайну
І шчасце, і доля гаротная…
Пахне прэлым лісцем ды іглiцай
Хмаркі набракла вымя
Першыя кроплі нясмелыя
Вецер
Справа даўняя
Слуп да слупа
Адзінота

Пунсовыя кроплі на белым абрусе
Куляецца поўня у лужыне
Нібыта прывід, я без цябе туляюся
Сцерся, як быццам бы я – абразіў
Ты мяне турбуеш
Човен нашай надзеі
Маіх надзей няскошанае поле
У адказе – маўчанне
А нешта было ў гэтым восеньскім ранні
Адышло… Адцвіло…. Адгарэла…
Развітанне
Каханне
ТРЫЯЛЕТ
Не бывае аднаго спаткання
Запытай – адкажу
Ахіне пяшчотай вечар, замілуе
Спляці мне сон з трыснёгу
Хмары скамячылі неба прасцінку
А я ў туман, зноў у туман
Накіне ноч празрыстае манто
Пачуццяў вадзіца студзёна
Думкі
Хмызнякі і дарогі
І шчасце, і доля гаротная
Я ступіў за парог і нібы выйшаў з комы
Бялеюць лілеі
Рыпіць расколінай кармá